ГАЗЕТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109. JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXV, № 213 New York, January — Студзень 1975 Vol. XXV, № 213

**СУСТРЭЧА ГЕРАРХАЎ БАПЦ З АРХІЯПІСКАПАМ ЯКАВАСАМ, ЭКЗАРХАМ СУСЬВЕТНАГА ПАТРЫЯРХА ДЗЬМІТРЫЯСА**

**У Нью Ёрку 19 сьнежня 1974 г. у рэзыдэнцыі Архіяпіскапа Якаваса, Экзарха Сусьветнага Патрыярха Дзьмітрыяса на Паўночную й Паўдзённую Амэрыку, адбылася сустрэча з Архіяпіскапам Якавасам герархаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы: Мітрапаліта Андрэя, Архіяпіскапа Мікалая й пратаярэя Васіля Кендыша, сакратара кансысторыі БАПЦ. Сустрэча прайшла ў атмасфэры шчырага й прыязнага абмену інфармацыяй і абмеркаваньня кананічных пытаньняў ды закончылася абменам калляднымі віншаваньнямі.**

## МОЎНАЯ РУСЫФІКАЦЫЯ ПРАГРЭСУЕ

У нумары чацьвертым маскоўскага навуковага часапісу „История СССР" за леташні год надрукаваны абшырны артыкул С. Брука й М. Губоглы пад загалоўкам „Разьвіцьцё і ўзаемадзеяньне этнадэмаграфічных і этналінгвістычных працэсаў у савецкім грамадзтве на сучасным этапе". У артыкуле гэтым асьветленыя этнадэмаграфічныя й этналінгвістычныя працэсы й на Беларусі паводля дадзеных двух апошніх перапісаў жыхарства СССР у 1959 і 1970 гадох. У гэтым артыкуле мы спынімся адно на адным пытаньні гэтае праблемы: на ўдзельнай вазе беларускай і расейскай моваў у БССР у міжперапісным пэрыядзе.

Гэтак паводля перапісу 1959 году, 84,2 працэнтаў жыхарства беларускае нацыянальнасьці БССР паказала сваёй роднай мовай беларускую мову, а паводля перапісу 1970 году — 80,6 працэнтаў. Значыцца, у міжперапісным адзінаццацігодзьдзі колькасьць беларускага жыхарства, што сваёй роднай мовай уважала беларускую мову, зьменшылася на 3,6 працэнтаў і нагэтулькі-ж павялічылася доля расейскае мовы, як роднай сярод Беларусаў. Раўнуючы да іншых саюзных рэспублікаў, Беларусь стаіць на першым месцы, калі ходзіць пра колькасьць ейнага беларускага жыхарства, што вызнала сваёй роднай мовай расейскую мову.

За Беларускай ССР ідзе Украінская ССР, у якой у перапісе 1970 году колькасьць жыхарства ўкраінскае нацыянальнасьці з украінскай мовай, як роднай, зьменшылася на два працэнты. У іншых саюзных рэспубліках удзельная вага расейскай мовы, як роднай для карэннага жыхарства павялічылася нязначна на дзесятыя долі аднаго працэнта, або засталася на тэй самай вышыні, што і ў перапісе 1959 году, або выказала нязначнае зьніжэньне таксама на дзесятыя долі аднаго працэнта.

Узноў-жа перапіс 1970 году выявіў, што сярод нерасейскіх нацыянальнасьцяў найбольшая колькасьць Беларусаў, бо аж 49 працэнтаў, паказала, што яны, апрача сваёй роднай беларускай мовы, свабодна магуць карыстацца расейскай мовай. За Беларусяй ідуць Латышы, 45,2 працэнтаў якіх свабодна карыстаюцца расейскай мовай, тады Казахі із 41,8 працэнтамі, Украінцы з 36,3 працэнтамі, і гэтак далей.

Аўтары згаданага артыкулу Брук і Губогла адзначаюць, што „два важнейшыя аспэкты этналінгвістычных працэсаў — пераход на другую мову і свабоднае карыстаньне другой мовай — цесна зьвязаныя між сабой. Народы, у якіх высокая ўдзельная вага тых, што перайшлі на другую мову, маюць таксама высокі працэнт людзей, што ведаюць другую мову".

Прынамся ў дачыненьні да беларускага народу гэтая тэза, як можна было пераканацца з прыведзеных лікаў, пацьвярджаецца поўнасьцяй. Галоўнымі прычынамі прылучэньня вялікае колькасьці Беларусаў, Украінцаў і некаторых іншых народаў да расейскае мовы, на думку аўтараў артыкулу, працягласьць этнакультурных кантактаў гэтых народаў з расейскім народам, а таксама іхнае сумеснае, на нашую-ж думку, адно часткавае, расьсяленьне. Апрача гэтага, аўтары ўважаюць, што й сацыяльна-эканамічныя фактары ў вабставінах разьвітага сацыялістычнага грамадзтва ўплываюць таксама на этнадэмаграфічныя, а тым самым і этналінгвістычныя працэсы.

Прычыны гэтыя, аднак, не галоўныя. Асноўныя й галоўныя прычыны далучэньня нерасейскіх народаў да расейскае мовы чыста палітычныя, пра якія сяньня адкрыта ня згадваецца. Пра гэтыя прычыны ўсё-ж пасярэдня прагаварыліся згаданыя аўтары. У артыкуле чытаем: „Двумоўе гістарычна неабходная і прагрэсыўная зьява ў шматнацыянальным савецкім грамадзтве. Фокусуючы ў сабе адзінства нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, розныя тыпы двумоўя, у прыватнасьці тыя зь іх, пры якіх родная мова спалучаецца з расейскай мовай, зьяўляюцца вынікам этналінгвістычных працэсаў, што вядуць да станаўленьня супольнае мовы міжнацыянальных лучнасьцяў і спрычыняюцца да складваньня этналінгвістычнай супольнасьці — савецкі народ".

Пераклаўшы гэтае мудрагелістае сфармуляваньне на простую мову, сэнс будзе гэткі: ад двумоўя — просты шлях да адзінамоўя, але ўжо расейскага, як аднаго з фактараў фармаваньня новай людзкой супольнасьці — савецкага народу. Савецкая нацыянальная палітыка, у прынцыпе й тэорыі адзіная да ўсіх народаў СССР, не адзіная й неаднолькавая ў сваім практычным ужыцьцяўленьні ў дачыненьні да паасобных народаў. Сваю нацыянальную палітыку партыя строга рэглямэнтуе: адным народам з розных палітычных меркаваньняў дае большыя нацыянальныя канцэсіі, іншым — меншыя. У заспакаеньні нацыянальных патрэбаў беларускага народу, асабліва ў галіне мовы Беларусь сярод іншых нацыянальных рэспублікаў пастаўленая на самым апошнім месцы. Гэта факт бясспрэчны, што пацьвярджаецца ўсёй савецкай рэчаіснасьцяй, як сяньняшняй, гэтак і на працягу ўсяе гісторыі савецкай улады на Беларусі.

Усё вышэйшае й спэцыяльнае сярэдняе школьніцтва на Беларусі вядзе навучаньне выключна на расейскае мове. Бальшыня сярэдніх агульнаэдукацыйных школаў, а ў сталічным Менску — бяз вынятку ўсё школьніцтва вядзе навучаньне таксама на расейскае мове. Усё справодзтва ў дзяржаўных, савецкіх, камунальных і навет культурных установах і дабраахвотных грамадзкіх арганізацыях вядзецца выключна на расейскай мове. Асабліва зыркі прыклад выцісканьня беларускай мовы з жыцьця рэспублікі й замены яе расейскай мовай, раўнуючы да моўнай палітыкі ў іншых саюзных рэспубліках, дае кніжнае выдавецтва БССР. Тут мы маем канкрэтныя статыстычныя лікі.

Паводля штогадовага афіцыйнага статыстчнага даведніка Ўсесаюзнай Кніжнай Палаты „Печать СССР", і цяпер, і ў міжперапісным пэрыядзе з усяе гадавое кніжнае прадукцыі Беларусі выдавалася на беларускай мове ў сярэднім каля 20 працэнтаў кнігаў, а на расейскай мове —80 працэнтаў. Затое ў некаторых іншых нацыянальных рэспубліках, як Армянская, Грузінская, Эстонская, Літоўская ССР, кнігаў на мове карэннага жыхарства выдавалася ў тым самым часе ад трох да чатырох разоў больш, чымся кнігаў на расейскай мове. Навет у Туркменскай ССР выдавалася кнігаў на туркменскай мове два разы больш, чымся на расейскай. У некаторых іншых рэспубліках кнігаў на мове карэннага жыхарства ў васноўным раўняецца колькасьці кнігаў на расейскай мове. І толькі ў некалькіх рэспубліках выдаецца кнігаў на мове карэннага жыхарства трохі менш, чымся на расейскай мове. Навет у Украінскай ССР, мова карэннага жыхарства якой, як славянская, зблізаная да расейскай мовы ня менш, чымся й беларуская мова, выдавалася каля 40 працэнтаў кнігаў на ўкраінскай мове. Гэткім парадкам, Беларусь паводля ўдзельнае вагі сваёй кніжнай прадукцыі на роднай мове, што ў міжперапісным пэрыядзе складала ўсяго 20 працэнтаў, стаяла на самым апошнім месцы.

Пасьля апошняга перапісу жыхарства ў 1970 годзе колькасная ўдзельная вага беларускай кнігі шпарка пайшла на далейшае зьніжэньне: у 1971 годзе выйшла ў БССР кнігаў на беларускай мове ўжо ня 20, а роўна 16 працэнтаў, а кнігаў на расейскай мове адпаведна 84 працэнты. У наступным-жа 1972 годзе кнігаў на беларускай мове выйшла ўжо ўсяго 15,3 працэнта з усяе кніжнае прадукцыі Беларусі. Статыстычных дадзеных за 1973 год яшчэ няма.

Калі ходзіць пра тыражы беларускіх і расейскіх кнігаў, дык іхныя працэнтныя лічбы засталіся ў васноўным бязь зьмены ў 1971 і 1972 гадох, што і ў міжперапісным пэрыядзе: каля 30 працэнтаў для кнігаў на беларускай мове і каля 70 працэнтаў для кнігаў на расейскай мове.

І гэтае раптоўнае зьніжэньне колькасьці беларускіх кніжных выданьняў ані не закранула іншых нацыянальных рэспублікаў СССР. Ува ўсіх гэтых рэспубліках удзельная вага кніжнай прадукцыі на мовах іхнага карэннага жыхарства і ў 1971-1972 гадох засталася тая самая, што й ранейшымі гадамі.

Зусім заканамерна, што ступень замены беларускай мовы расейскай мовай у публічным, школьным і культурным жыцьці Беларусі цягне за сабой і ступень пераходу беларускага жыхарства на расейскую мову, як родную, а таксама й ступень свабоднага паслугоўваньня расейскай мовай, як другой пасьля сваёй роднай. І гэта ня ў выніку нармальнага й свабоднага этналінгвістычнага працэсу, а ў моц партыйнае палітыкі.

**Раман Шарупіч**

## ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Беларусы Кліўленду й аколіцаў урачыста адзначылі 54-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў нядзелю 8 сьнежня летась. Яго Высокапрасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй у суслужэньні з пратадыяканам Міхасём Страпком адслужыў сьв. Літургію й Паніхіду па Слуцкіх гэроях. У глыбока патрыятычнай казані Ўладыка Андрэй падчыркнуў важнае гістарычнае значаньне збройнага чыну Случчакоў, якія пралажылі шлях для далейшага збройнага змаганьня за волю й незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Папаўдні адбыўся ў царкоўнай залі ўрачысты сход, які адчыніў старшыня Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА Янка Раковіч. Прывітаўшы прысутных, ён папрасіў хвілінаю цішыні ўшанаваць сьветлую памяць тых, што йшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына. Рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне й далейшыя этапы збройнага змаганьня беларускага народу прачытаў ген. д-р Язэп Сажыч, адмыслова прыбыўшы з Дэтройту. У сваім дакладзе ён ня толькі насьветліў важнейшыя мамэнты беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ў часе Першае сусьветнае вайны й Слуцкага паўстаньня, як ягонага выніку, але шырака закрануў паасобныя акты збройнага змаганьня і ў пэрыядзе Другое сусьветнае вайны. У насьвятленьні збройнага змаганьня асабліва ў часе Другое сусьветнае вайны дакладчык быў строга аб'ектыўным і правільна схарактарызаваў усе беларускія вайсковыя фармацыі.

Вэтэран Слуцкіх паўстанцаў пісьменьнік Алесь Змагар, які ў гэным часе быў яшчэ юнаком і ўважна сачыў за слуцкімі падзеямі, узяўшы слова, прыгадаў шмат якія канкрэтныя факты й эпізоды з падрыхтоўкі й ходу Слуцкага паўстаньня. Ён падаў навет гэткія дэталі, як дзе стаяла й як выглядала трыбуна, зь якой каманьдзеры - арганізатары першых слуцкіх палкоў і батальёнаў прамаўлялі да народу, назваў прозьвішчы некаторых з гэтых каманьдзераў, прыгадаў зьмест іхных прамоваў ды як былі расстаўленыя сталы, пры якіх запісвалі ахвотнікаў у баёвыя адзінкі. Здавалася, што гэты чалавек толькішто прыехаў із Слуцкага фронту й інфармуе пра падзеі, што адбыліся коратка перад тым. Не дарма-ж Алесь Змагар напісаў і выдаў дзьве кнігі пра падзеі паўвяковай даўнасьці на Случчыне.

Ад Беларускага Вызвольнага Фронту, які стаіць на пазыцыях задзіночаньня ўсяе беларускае эміграцыі ў ейным вызвольным змаганьні, прамаўляў Янка Гоўша. Паклікаўшыся на прыклад ахвярнага змаганьня Случчакоў, ён зьвярнуўся да суродзічаў з гарачым заклікам даць поўнае падтрыманьне ўсім тым, што ў імя вялікае нацыянальнае ідэі імкнуцца да нацыянальнага задзіночаньня. Ён зазначыў, што зробленыя ў гэтым кірунку першыя крокі рэдактарам „Беларуса" д-рам Станіславам Станкевічам і кінутае ім здаровае зерне згоды ў беларускую эміграцкую глебу хутка прынялося ў пусьціла сваё карэньне ў сэрцах беларускіх патрыётаў. Гэта дае надзею, — казаў ён, — што наступны год станецца годам задзіночаньня і ўмацаваньня беларускіх вызвольных сілаў на эміграцыі. Ён таксама зьвярнуўся да ген. Язэпа Сажыча з просьбаю зрабіць усе захады дзеля зарганізаваньня аднае галоўнае кватэры беларускіх вэтэранаў на чужыне ды наладжаньня цеснага супрацоўніцтва зь Беларускім Вызвольным фронтам. Прамова выклікала высокі энтузіязм і бурную хвалю воплескаў.

Сход закончыўся дружным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Я. Ш.**

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ



**Ганаровая Варта Беларускіх Вэтэранаў падчас Паніхіды ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку**

Беларускія арганізацыі ў штаце Нью Джэрзі ўрачыста адзначылі 54-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. У сыботу 7 сьнежня сябры Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў ушанавалі памяць гэрояў наведваючы Беларускі Магільнік у Іст Брансьвіку. У нядзелю 8 сьнежня ў парахвіяльнай царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку пасьля звычайнае Божае Службы была адпраўленая Паніхіда ў памяць тых, што памерлі за Беларусь.

Урачысты сход, што адбыўся пасьля царкоўнае службы, адчыніў капт. С. Гутырчык — каманьдзер Аддзелу ЗБАВ у Нью Джэрзі. Тэмай урачыстага рэфэрату былі ўспаміны сп. Васіля Стомы пра сьвяткаваньне Слуцкага паўстаньня ў 1948 годзе ў лягеры Лютэнзэ ля Мітэнвальду ў Заходняй Нямеччыне. Расейская адміністрацыя лягеру не дала лягернай залі дзеля правядзеньня сьвяткаваньня, думаючы, што гэтым найлепш палагодзіла няпрыемную для яе справу. Інакш думалі Беларусы — жыхары лягеру. Яны паставілі вялікі й прыгожа выкананы бэтонны помнік сваім гэроям, які стаіць там сяньня й будзе стаяць заўсёды.

Ганаровым гасьцём на сьвяткаваньні быў Старшыня Рады БНР д-р Вінцук Жук-Грышкевіч. У гарачай прамове ён падзяліўся ўспамінамі з часоў Слуцкага паўстаньня. Ён прыгадаў, як, будучы тады вучнем Беларускае гімназіі ў Вільні, беларуская школьная моладзь гарэла жаданьнем памагчы паўстанцам ды як пазьней перажывала трагэдыю паўстаньня. Ён казаў, што й цяпер у ягонай памяці рысуюцца, як жывыя, постаці паўстанцаў, што прыбылі ў Вільню, каб вучыцца, працаваць і змагацца з польскай акупацыяй на Беларусі ды каб прадаўжаць на эміграцыі змаганьне за ідэю Слуцкага паўстаньня.

Мастацкая дэклямацыя вершу Натальлі Арсеньневай „Варта жыць" матушкі Марыі Васілеўскай і нацыянальны гімн закончылі праграму сьвяткаваньня.

## 13-Я СЭСІЯ РАДЫ БНР

У Нью Ёрку 30 лістапада 1974 году адбылася 13-я Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Сэсія, ўшанаваўшы памяць памерлых сваіх сяброў ды зацьвердзіўшы прыняцьцё новых, абмеркавала статутовыя й арганізацыйныя пытаньні ды праблемы бягучае палітычнае працы. Праслухаўшы справаздачы Старшыні Рады БНР др. В. Жука-Грышкевіча, Прэзыдыюму й Сакратароў, Сэсія ўхваліла плян далейшае працы. Быў прыняты таксама аднагалосна Зварот Рады БНР да беларускага грамадзтва.

## СЬВЯТА ГЭРОЯЎ У АДЭЛЯЙДЗЕ

1-га сьнежня 1974 г. Беларусы Адэляйды (Аўстралія) адзначылі Дзень Гэрояў Беларусі. Урачыстасьць пачалася а 10-й гадзіне раніцы ў БАПЦарскве сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Сьв. Літургію й Паніхіду па гэроях Беларусі адправіў а. Георг, пасьля чаго сказаў глыбока патрыятычнае казаньне. Прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Бурнаса.

Жалобны сход адбыўся ў царкоўнай залі, які адчыніў старшыня Парахвіяльнай Рды сп. Станкевіч. На прапанову а. Георга прысутныя прапяялі малітву „Ойча наш". Рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне прачытаў сп. М. Бурнас, у якім паінфармаваў, як арганізавалася паўстаньне, і пра ход змаганьня з маскоўскім акупантам. Пасьля рэфэрату сп. Бурнас з вэтэранамі прапяяў жалобны марш „Сьпі пад курганам гэрояў", а дачка сп. Бурнаса Ліля прыгожа прадэклямавала беларускі верш.

Пасьля жалобнага сходу адбыўся сяброўскі абед, падрыхтаваны руплівымі жанчынамі. Бяседа цягнулася аж да вечара. Падчас абеду прадаваліся памастацку выкананыя ручной працай рэчы й была праведзеная грашовая зборка, што разам прынесьлі ў царкоўную касу 140 даляраў. Усім, што дапамаглі ў зарганізаваньні сьвяткаваньня як працай, гэтак і грашыма, вялікае беларускае дзякуй!

**Парахвіянін**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.

Subscription $10.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# НА ЮБІЛЕЙНЫ ГОД "БЕЛАРУСА"

Гэтым сваім нумарам газэта „Беларус" пачынае 25-ы год свайго існаваньня, першы нумар якой быў датаваны 20 верасьнем 1950 году.

На працягу ўсяго гэтага часу газэта праходзіла розныя фазы свайго разьвіцьця. Былі й гады крытычныя, калі газэта выходзіла вельмі нярэгулярна, а то й даўжэйшы час перапыняла свой выхад, былі й гады ейнага ўздыму. Гэткімі былі й самыя апошнія гады. Служачы ад самага пачатку бесьперапынна найвышэйшай нацыянальнай ідэі — Вольнай і Незалежнай Беларусі, выказанай Актам 25 Сакавіка 1918 году, газэта патрапіла апошнім часам падняцца на высокі прафэсыйны ўзровень, паглыбіць свой грамадзкі характар ды быць строга аб'ектыўнай у насьвятленьні нашага нацыянальна-грамадзкага жыцьця на эміграцыі. Дзякуючы гэтаму, „Беларус" здабыў высокае прызнаньне й аўтарытэт, як сярод беларускага грамадзтва, гэтак і ў чужых.

Няма патрэбы й даводзіць, што бяз сталага пэрыядычнага друку сяньня нельга й думаць пра нармальную зарганізаваную дзейнасьць беларускае эміграцыі. Як ведама, сяньня існуюць чатыры галоўныя асяродкі ў Вольным Сьвеце, дзе нашая эміграцыя знаходзіцца ў большай колькасьці й, будучы згуртаванай у сваіх нацыянальных арганізацыях, сыстэматычна вядзе грамадзкую, палітычную й культурную нацыянальную дзейнасьць ды мае свае нацыянальные цэрквы. Гэта ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, Канадзе, Ангельшчыне, Аўстраліі й некаторых іншых краёх Эўропы. Але ніводзін з гэтых беларускіх асяродкаў, з прычыны параўнальна сьціплай колькасьці актыўных нацыянальна Беларусаў у кажным зь іх, ня мае практычнай магчымасьці мець свой асобны сталы друкаваны орган. Затое ёсьць усе магчымасьці мець паважны й на адпаведным узроўні пастаўлены супольны прэсавы орган для ўсіх згаданых асяродкаў.

Ідучы напярэймы агульным грамадзкім патрэбам беларускае эміграцыі ўва ўсіх краёх ейнага расьсяленьня, газэта „Беларус" і наважыла стацца гэткім супольным органам усяе беларускае эміграцыі. Дасюль былі зробленыя два важныя арганізацыйныя мерапрыёмствы ў гэтым кірунку. Як ведама, ад пачатку свайго выхаду ў 1950 годзе „Беларус" быў фактычным органам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а ў 1963-68 гадох выдаваўся як супольны орган БАЗА й Згуртаваньня Беларусаў Канады. Ужо ў гэтым другім пэрыядзе свайго існаваньня, асабліва пасьля таго, калі спыніла свой выхад выдаваная ў Мюнхэне газэта „Бацькаўшчына", „Беларус" апынуўся перад шырэйшымі заданьнямі: абслугоўваць ня толькі Беларусаў, згуртаваных вакол згаданых арганізацыяў у ЗША й Канадзе, а й усе іншыя беларускія асяродкі ў Вольным Сьвеце. У сувязі з гэтым і іншымі прычынамі XII-ы Кангрэс БАЗА ў травені 1967 году прыняў пастанову, паводля якой газэта, патрабуючы мець большую свабоду дзейнасьці, выйшла спад падпарадкаваньня Галоўнай Управы БАЗА, а сталася аўтаномнай адзінкай у сыстэме БАЗА, падпарадкаванай беспасярэдня Кангрэсу БАЗА. У міжкангрэсавых двухгадовых пэрыядах Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" была цалкам самастойнай і арганізацыйна незалежнай у сваёй дзейнасьці.

Праз год зь нішнім часу было зробленае наступнае мерапрыёмства. На пашыраным паседжаньні Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса" ў часе 8-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Дэтройце ў верасьні 1968 году была прынятая аднагалосна пастанова, што газэта „Беларус" у далейшым будзе выходзіць як фактычны орган усіх Беларусаў у Вольным Сьвеце, хоць афіцыйным ейным выдаўцом з чыста фармальных прычынаў будзе фігураваць і далей БАЗА. Адразу-ж пасьля гэтага ранейшы падзагаловак „Беларуса" — „Газэта Беларусаў Паўночнае Амэрыкі" быў заменены новым падзагалоўкам — „Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце". Гэтая пастанова пашыранага паседжаньня Рэдакцыйнае Калегіі была зацьверджаная XIII-ым Кангрэсам БАЗА ў травені 1969 году ў Нью Брансьвіку.

Абедзьве згаданыя пастановы апраўдалі сябе поўнасьцяй. Газэта „Беларус", стаўшыся фактычна „Газэтай Беларусаў у Вольным Сьвеце", пачала здабываць штораз больш інтэнсыўнае супрацоўніцтва й матарыяльнае падтрыманьне ня толькі ад Беларусаў, згуртаваных вакол БАЗА й ЗБК, але й ад Беларусаў Чыкага, што згуртаваныя ў сваёй арганізацыі — Згуртаваньне Беларусаў у штаце Іліной, ды ад Беларусаў, згуртаваных вакол сваіх арганізацыяў у Аўстраліі, Францыі й часткава ў Ангельшчыне. Зь Беларусамі Ангельшчыны гэтае супрацоўніцтва дасюль менш эфэктыўнае, але не пакідаем надзеі, што й там яно наладзіцца.

Аднак некаторыя адзінкі з колаў БАЗА, наўсуперак узаконенаму Кангрэсамі БАЗА фактычнаму статусу „Беларуса", як „Газэты Беларусаў у Вольным Сьвеце", спрабуюць і надалей, паклікаючыся на ейны фармальны афіцыйны статус, уважаць газэту за вылучную собскасьць і вылучны орган БАЗА, што прывяло ў леташнім годзе да непажаданых зьяваў, моцна некарысных і для газэты, і для БАЗА.

Найлепшым і найздаравейшым выхадам з гэтае сытуацыі было-б поўнае ўнезалежненьне газэты ад БАЗА й інкарпараваньне яе перад амэрыканскімі ўладамі, як цалкам самастойнае грамадзкае адзінкі. І напэўна да гэтага дойдзе, магчыма навет хутка, бо гэтага вымагае наш агульны нацыянальны інтэрас. Ад гэтага газэта напэўна ня сталася-б менш базаўскай, як і дасюль, як ня сталася яна менш зэбэкаўскай пасьля таго, калі з канцом 1968 году перастала ЗБК афіцыйна фігураваць на газэце, як сувыдавец „Беларуса". Сяньня гэтакае-ж фактычнае права да „Беларуса", як і БАЗА, мае, прыкладам, Згуртаваньне Беларусаў штату Іліной, Згуртаваньне Беларусаў Канады, Беларускі „Хаўрус" у Францыі, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, беларускія арганізацыі ў Аўстраліі й усе іншыя, сябры й прыхільнікі якіх, апрача намінальнае падпіскі на газэту, даюць на ейнае выдаваньне й грашовыя ахвяры, інакш кажучы, зьяўляюцца ейнымі сувыдаўцамі. І хоць паранейшаму фармальным выдаўцом „Беларуса" фігуруе на газэце БАЗА й арганізацыйна газэта падпарадкованая Кангрэсу БАЗА, Рэдакцыйная Калегія ўважае яе й будзе ўважаць за „Газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце".

Але ёсьць яшчэ адна праблема. Разумеючы патрэбы агульнанацыянальнага характару ў сяньняшняй палітычнай сытуацыі, газэта апошнімі гадамі пасьлядоўна йдзе напярэймы грамадзкім патрэбам **усіх** Беларусаў, што стаяць на пазыцыях Акту 25 Сакавіка, незалежна ад арганізацыйна-структурных і палітычных розьніцаў між імі. Гэткая грамадзкая й палітычная лінія газэты была спатканая з поўнай апрабатай і падтрыманьнем перш-наперш з боку ейных ранейшых аднадумцаў і прыхільнікаў. Пра гэта дастаткова пасьветчылі многія лісты да рэдактара й Рэдакцыйнае Калегіі з усіх чыста беларускіх асяродкаў, выказваньні на арганізацыйных сустрэчах чытачоў з рэдактарам, наймацней-жа выявілася поўнае прызнаньне правільнасьці занятае газэтай пазыцыі ў часе леташняй Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўленьдзе, калі ўсе ейныя ўдзельнікі дружна выступілі ў вабароне газэты перад спробамі ейнага асуджэньня за ўзяты ёю кірунак.

Прыхільна адгукнулася на гэты кірунак газэты й бальшыня Беларусаў зь іншых арганізацыйных фармацыяў, што раней былі супраць газэты. Праўда, частка іх паставілася да гэтага кроку газэты з рэзэрвай, як быццам вычэкваючы, ці вытрымае яна сваю лінію, а некаторыя зь іх практычна выявілі далейшую да яе няпрыхільнасьць. Даўгія гады ўзаемнага недаверу й варожасьці не маглі не пакінуць па сабе сьледу ў сьведамасьці некаторых людзей. Гэта якраз і гаворыць за тым, што пачатая газэтай „Беларус" акцыя шуканьня супольнае мовы паміж калісьці пасваранымі групамі нашых суродзічаў павінна з усёй наважанасьцяй прадаўжацца. І яна будзе прадаўжацца!

Наапошку яшчэ адна важная праблема. Адным з галоўных заданьняў „Беларуса", ак адзінай на эміграцыі аўтарытэтнай нацыянальнай газэты — гэта дакумантаваньне ўсяго беларускага нацыянальнага жыцьця й дзейнасьці на чужыне для гісторыі, а таксама дзеля цяперашняга азнаямленьня з гэтай дзейнасьцяй усяе нашае эміграцыі. З цалком незалежных ад Рэдакцыі, а залежных вылучна ад паасобных беларускіх асяродкаў прычынаў, заданьне гэтае, нажаль, выконваецца ў незадавальняючай ступені. Прыкладам, адзін зь вялікіх беларускіх сяродкаў у ЗША, выдатная матарыяльная дапамога якога для газэты можа служыць прыкладам і ўзорам для ўсіх іншых беларускіх асяродкаў, не зважаючы на паўтараныя Рэдакцыяй просьбы, апошнім часам бадайшто зусім ня прысылае для друку ў газэце справаздачаў із свае дзейнасьці, тымчасам як некаторыя канкрэтныя праявы гэтае дзейнасьці таксама маглі-б служыць прыкладам і ўзорам для ўсіх іншых беларускіх асяродкаў. У якасьці прыкладу прывядзём яшчэ больш несамавіты выпадак. Людзі зь іншага таксама вялікага беларускага асяродку ў ЗША выказалі сваю крыўду да „Беларуса" з тае прычыны, што газэта быццам не захацела адгукнуцца на дзьве ладжаныя летась у гэным асяродку імпрэзы. Тымчасам было інакш. Сам рэдактар „Беларуса" асабіста наведаў першую з гэных імпрэзаў і дамовіўся зь ейным кіраўніком, што ў самым гэным асяродку будзе зрыхтаваная справаздача зь імпрэзы й прысланая ў Рэдакцыю дзеля ейнага надрукаваньня. Тымчасам справаздача ня была прысланая. Што-ж датычыцца да другой імпрэзы, дык Рэдакцыя даведалася пра яе вельмі спозьнена й вылучна з гэнага крыўдаваньня за ненадрукаваньне справаздачы з гэнае імпрэзы. Інфармаваць газэту пра сваю дзейнасьць — заданьне самых беларускіх асяродкаў, у якіх гэтая дзейнасьць праводзіцца. Заданьнем-жа газэты — надрукаваць прысланы матарыял.

Вось гэта найважнейшыя праблемы газэты „Беларус" і ейнае Рэдакцыйнае Калегіі на сяньня й бліжэйшую будучыню. Моцна верачы, што нашае грамадзтва не пакіне нас без неабходнае дапамогі ў разьвязаньні ўсіх гэтых праблемаў, мы зь ня меншымі як і дасюль, энтузіязмам і аптымізмам уваходзім у новы юбілейны год нашае газэты „Беларус".

**Ст. Станкевіч**
**Старшыня Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса"**

# ЗВАРОТ
## РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ ДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА

**(прыняты на 13-й Сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку 30 лістапада 1974 г.)**

Другая палавіна дваццатага стагодзьдзя адзначаецца працягам нацыянальна-вызвольнага змаганьня паняволеных народаў і ростам ліку незалежных дзяржаваў. Найлепш пра гэта сьветчаць дзесяткі новых дзяржаваў, што працягам двух апошніх дзесяцігодзьдзяў, здабыўшы сваю незалежнасьць, увайшлі ў склад Задзіночаных Нацыяў і рэпрэзэнтаваныя там запраўднымі прадстаўнікамі сваіх народаў, а не марыянэткамі каляніяльнае мэтраполіі, як у выпадку кантраляванае Масквой дэлегацыі Беларускае ССР. Увесь гэты працэс міжнароднага разьвіцьця адно пацьвярджае жыцьцёвасьць сфармуляваных у лютым-сакавіку 1918 году ў трох устаўных граматах Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ідэялаў нацыянальнае незалежнасьці й дэмакратычных свабодаў беларускага народу ды тэрытарыяльнае непадзельнасьці.

За свабоду й незалежнасьць Беларусі змагалася шмат пакаленьняў беларускага народу: паўстанцы Кастуся Каліноўскага ў 1862-1864 гадох, народнікі 1880-х гадоў, нашаніўцы на пачатку гэтага стагодзьдзя, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі й беларускія патрыёты ад часу Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году й абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году. Гадамі Другое сусьветнае вайны Беларусь заплаціла жыцьцём кажнага свайго чацьвертага жыхара за права жыць у свабодзе, матар'яльным і духовым дабрабыце. Дагэтуль, аднак, беларускі народ, паняволены сатрапамі маскоўскае дыктатуры, не дамогся сабе гэтага права, хоць права гэтае прызнанае ў прынцыпе на паперы: савецкая прапаганда шырака расьпісваецца пра дзяржаўную сувэрэннасьць Беларусі ды матар'яльны й духовы дабрабыт. Гэтыя аблыжныя цьверджаньні прызначаныя на прыхоўваньне факту эканамічнае эксплятацыі й русыфікацыйнага ўціску на Беларусі. У іх, аднак, адлюстравалася адначасна ўсьведамленьне беларускім народам самое патрэбы свае нацыянальнае сувэрэннасьці. На здушэньне й выкараненьне гэтага ўсьведамленьня якраз і ськіраваная ўся русыфікацыйная акцыя савецкае ўлады. Канчальнай бо мэтай Масквы ніколі не пакідала быць, ні да рэвалюцыі 1917 году ні пасьля яе, мацаваньне коштам падбітых народаў „единой и неделимой" імпэрыі, як-бы яна ні звалася: „Расейская" ці „Савецкая". Да рэвалюцыі мацаваньне гэтае на Беларусі праводзілася шляхом запярэчваньня існаваньня беларускага народу й забаронай ягонае мовы, цяпер — прыхваткай „зьліжэньня" й „зьліцьця" яго з расейскім народам у г. зв. „новую гістарычную супольнасьць — савецкі народ".

Да чаго гэтая палітыка этнацыду вядзе практычна, паказваюць факты: у Савецкай Беларусі беларуская мова, што становіць галоўны кампанэнт нацыянальнае сьведамасьці народу, выціснутая ў вялікай меры з культурнага жыцьця рэспублікі, з навукі, з адміністрацыі, з галінаў масавага мастацтва (кіно, тэлебачаньне), вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў, друку. Савецкая палітыка двумоўя з падступным канцэптам расейскае мовы, як другое „роднае" мовы Беларуса — нічога іншага, як фігавы лісток вялікадзяржаўнага шавінізму, за якім хаваецца тэндэнцыя перацягненьня Беларусаў да расейскага аднамоўя. Ужо цяпер паводля савецкае-ж статыстыкі адно 15 працэнтаў кніжак у Савецкай Беларусі выдаецца пабеларуску —найніжэйшы працэнт за ўсе паваенныя гады. Да чаго гэтая тэндэнцыя можа давесьці, сказаў яшчэ пачынальнік беларускага літаратурнага адраджэньн, Францішак Багушэвіч у 1891 годзе: „Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі". Пра тое пісаў у 1862 годзе й Кастусь Каліноўскі, Багушэвічаў сябар па зброі ў паўстаньні 1863 году, рыхтаваўшы гэнае паўстаньне выдаваньнем падпольнае газэты „Мужыцкая Праўда" (№ 4): „У нас, Дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля".

Беларускі народ тымчасам мае сваю старадаўную культуру й мову — мову дзяржаўнага справаводзтва й заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага, пра прыгажосьць якое казаў ураджэнец Беларусі паэта Адам Міцкевіч, самабытнасьць яоке паказаў акадэмік Яўхім Карскі, нявычэрпнае багацьце якое захаванае ў нетрах беларускага фальклёру й творчасьці сотняў беларускіх пісьменьнікаў.

У 1974 годзе споўніліся 90-я ўгодкі ад выхаду беларускага падпольнага часапісу „Гоман", выдаўцы якога, беларускія студэнты ў Пецербурзе (на Беларусі вышэйшыя навучальныя ўстановы расейскі царызм быў забараніўшы), працягваючы рэвалюцыйныя традыцыі Кастуся Каліноўскага, вялі змаганьне з русыфікатарскім засільлем царскіх бюракратаў за адраджэньне свайго старадаўнага краю й ягонае багатае гістарычнае й культурнае спадчыны. „У сучасны момант (пісалі гоманаўцы ў 1884 годзе) поруч із змаганьнем за свабоду асобы йдзе ўпартае змаганьне за нацыянальнае раўнапраўе й незалежнасьць... вось чаму ў рэвалюцыйны катэхізіс увайшла, як незапярэчная догма, нацыянальная салідарнасьць на аснове роўнасьці, а не падпарадкаваньня . . ."

Зварачаючыся да беларускае інтэлігенцыі з заклікам спрыяць народу „выявіць свой нацыянальны гені", гоманаўцы сфармулявалі прынцып, што ў сваёй аснове застаўся актуальным і цяпер для ўсіх нас:

„Бязь цеснае еднасьці із сваім народам, бяз глыбокага вывучэньня ягоных матар'яльных і духовых запатрабаваньняў, без разуменьня й павагі ягоных патрэбаў, што выцякаюць з асаблівасьцяў усяго ягонага мінулага гістарычнага й эканамічнага жыцьця, — усе ідэялы інтэлігенцыі застаюцца назаўсёды пустым гукам, якімі-б з выгляду дэмакратычнымі яны ні былі. Толькі цалкам зьвязаная з патрабаваньнямі жыцьця беларускага народу дзейнасьць інтэлігенцыі будзе плённай, толькі прыстасаваныя да ўмоваў жыцьця й культуры беларускага народу ідэялы інтэлігенцыі знойдуць ажыцяўленьне на беларускай глебе, садзейнічаючы матар'яльнаму й духоваму росквіту беларускага народу. Лішні раз тады давядзе беларуская нацыянальнасьць даведзенае ўжо ці раз . . . што НЯ НІЗКІ ЎЗРОВЕНЬ КУЛЬТУРЫ ВЫКЛІКАЕ ЯЕ ПАДПАРАДКАВАНЬНЕ, А НААДВАРОТ, ПАДПАРАДКАВАНЬНЕ ВЫКЛІКАЕ ЗАСТОЙ".

Хоць з тых часоў беларускае нацыянальнае разьвіцьцё пайшло далёка наперад ды набыло характару масавага руху, русыфікацыйная пагроза ня зьнікла — яна сталася цяпер больш вытанчанай і ў век масавае асьветы больш грунтоўнай. Не зьмянілася ў сувязі з гэтым і існасьць змаганьня за нацыянальнае існаваньне. А затым ня страціла актуальнасьці й тая праграма, якую сфармулявалі перад беларускай інтэлігенцыяй і перад цэлым беларускім народам выдаўцы „Гоману".

Трынаццатая Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, скліканая ў 90-я ўгодкі ад выхаду часапісу „Гоман" ды ў пэрыядзе ўзмоцненага русыфікацыйнага наступу на Беларусь, заклікае ўсіх сумленных сыноў і дачок Беларусі да актыўнага ўдзелу ў змаганьні за сваю нацыянальную існасьць. Змаганьне гэтае будзе тым больш плённым, чым лепш мы ўсьведамім сабе выказаную гоманаўцамі глыбокую думку, што „ня нізкі ўзровень культуры выклікае яе падпарадкаваньне, а, наадварот, падпарадкаваньне выклікае застой". Адначасна, як паказала ўся далейшая гісторыя беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й дзяржаўнага будаўніцтва, нязвычайна важным фактарам у змаганьні — і чым далей, тым больш — становіцца ўсьведамленьне другое заканамернасьці: засваеньне нацыянальнае культуры, выяўленьне й пашырэньне багацьцяў гістарычнае спадчыны вызваляе духова, аблягчае цяжар падпарадкаванасьці ды ўзмацняе надзею на поўнае скасаваньне гэтае падпарадкаванасьці праз ужыцьцёўленьне ідэялаў Беларускае Народнае Рэспублікі: нацыянальнае сувэрэннасьці, дэмакратычных свабодаў, матар'яльнага й духовага дабрабыту.

**Жыве Беларусь у змаганьні!**

Нью Ёрк, 30. XI. 1974 г.

**13-я Сэсія Рады**
**Беларускае Народнае Рэспублікі**

---

**Атаман Люты Лютэнко заміж вянка на мэгілу сьв. пам. Аляксандра Стагановіча на Выдавецкі Фонд „Беларуса" пераслаў $ 10.00.**

---

### БЕЛАРУСЫ НА ВЫСТАЎЦЫ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

29-30 лістапада летась Рада Мастацтва ў Кліўленьдзе арганізавала міжнародную выстаўку. Беларускі аддзел выстаўкі вылучаўся ўдалым і багатым падборам экспанатаў народнага мастацтва. Пра гэта казалі шмат якія наведвальнікі выстаўкі. Асабліва шмат зацікаўленьня беларускі аддзел выстаўкі выклікаў у настаўнікаў і студэнтаў. На выстаўцы раздаваліся англамоўныя інфармацыйныя брашуры пра Беларусь. Многія прасілі падручнікаў зь беларускай мовы й больш інфармацыяў пра Беларусь. На выстаўцы дзяжурылі Янка Ханенка й Валодзя Дунец. Ім памагалі Янка Раковіч малодшы, Іра Каляда-Сьміонова, Таньцяна Кананчук, Андрэй Кананчук і Міхась Каваленка. Шкада, што вельмі мала Беларусаў наведала выстаўку.

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Група амэрыканскіх вучняў прадстаўляла Беларусь у Вашынгтоне** на канфрэнцыі-гульні на тэму „Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў сяньня й учора". Канфрэнцыя адбылася 13 сьнежня. Пяцьдзесят групаў старшаклясьнікаў амэрыканскіх дванаццацігадовых сярэдніх школаў прадстаўлялі на канфэрэнцыі ня толькі кажная сваю школу, але й кажная нейкую дзяржаву, што ўваходзіць у склад АЗН. Ролю „беларускае дэлегацыі" выконвала група 16 вучняў Калюмбійскае сярэдняе школы з гораду Мэйплвуд штату Нью Джэрзі, пад кіраўніцтвам настаўнікаў Андр'ю Ньюфілда й Вільяма Літла.

Да таго, як прыбыць у Вашынгтон, група даўжэйшы час зьбірала інфармацыі пра Беларусь, знаёмілася зь ейнай гісторыяй, культурай і палітычным разьвіцьцём; наведала ў Нью Ёрку будынак АЗН, беларускую місію пры АЗН, а таксама Ньюёркаўскую Публічную Бібліятэку, дзе др. Вітаўт Кіпель правёў паўдня з наведвальнікамі, знаёмячы іх зь літаратурай пра Беларусь.

У ходзе самое „канфэрэнцыі" ў Вашынгтоне „прадстаўнікі" Беларусі ўзялі актыўны ўдзел у дэбатах ды паставілі запраўднаму савецкаму прадстаўніку, што прысутнічаў на канфэрэнцыі, шэраг пытаньняў пра Беларусь, на некаторыя зь якіх той ня зусім здолеў даць вычарпальныя адказы.

**„Маніфэст Свабоды для ўсіх Паняволеных Народаў"** быў апублікаваны ў ньюёркаўскім штадзёньніку „Дэйлі Ньюз" за 4 сьнежня 1974 г. Газэта гэтая мае найбольшы ў Амэрыцы тыраж — больш за два мілёны экзэмпляраў. Падпісалі маніфэст 65 прадстаўнікоў народаў, што знаходзяцца пад камуністычным панаваньнем. Ад імя Беларусаў падпісалі гэты дакумэнт інж. Джон Касяк і Анатоль Плескачэўскі.

**Савецкі фільм пра беларускую спартсмэнку Вольгу Корбут** „Ольга", дубляваны ў ангельскую мову", быў паказаны двойчы (7 і 11 сьнежня 1974 г.) на экранах ньюёркаўскае адукацыйнае тэлестанцыі (трынаццаты канал). Гадзіннае даўжыні фільм даў тэлегледачом даволі дакладнае ўяўленьне пра Вольгу Корбут і ейнага трэнэра Ранальда Кныша ды іхны мэтад працы й супрацоўніцтва. Паказальна аднак, што ў тэксьце ўсяго фільму пад ангельскай мовай вядучага ўсюды чуваць вылучна расейская мова ды аніразу не прагучэла слова „Беларусь" (яно мільганула адно раз на экране, у напісе паангельску, калі кадр фільму пераносіць месца акцыі з Масквы ў „Гродна. Беларусь").

**Восенскі нумар квартальніка „Беларуская Моладзь",** выдаванага Беларуска - Амэрыканскай Арганізацыяй Моладзі ў Нью Ёрку (галоўны рэдактар — Раіса Станкевіч) зьмяшчае ў сабе, між іншых матар'ялаў, ілюстраваны артыкул (працяг сэрыі) Раісы Станкевіч пра Полацкую Зямлю, народную беларускую казку „Ня сіла, а сьмеласьць", верш Андрэя Гасьцеева „Лагоднае надвор'е" (паангельску), артыкул Юркі Азаркі „Нямецкая акупацыя Беларусі", нататкі Алесі Кіпель з падарожжа ў Эўропу, Ніны Запруднік пра амэрыканскі звычай „Галаўіну", ілюстраваная хроніка з жыцьця й дзейнасьці беларускае моладзі ў Амэрыцы й Канадзе. У нумары дадзены паказьнік матар'ялаў з папярэдніх нумароў часапісу.

**Артыкул праф. Стэфана Горака „Беларусь: мадэрнізацыя, грамадзянскія правы, нацыяналізм"** зьмешчаны ў трэйцім восенскім нумары канадзкага навуковага часапісу „Канэд'ен Славонік Пэйпэрс" (Канадзкі Славянскі Агляд), органе Канадзкае Славістычнае Асацыяцыі. У артыкуле аўтар дае агляд працэсу разьвіцьця эканомікі й культуры Беларусі, сьцьвярджае прагрэс у шмат якіх галінах (ахова здароўя, рост прамысловасьці, асьветы, друку), але адначасна з гэтым, на аснове савецкіх матар'ялаў, паказвае ўзмоцнены працэс русыфікацыі, з аднаго боку, а з другога выявы на Беларусі супраціву й абароны сваіх нацыянальных правоў.

**Др. Вольга Арэхва брала ўдзел з дакладам пра гістарычныя паэмы Янкі Купалы** ў 16-й гадавой канфэрэнцыі сустрэчы сярэдня-заходняга аддзелу амэрыканскай Асацыяцыі Сучасных Моваў. Канфэрэнцыя адбылася ў гор. Сэнт Люісе ў штаце Місуры 31 кастрычніка — 2 лістапада 1974 году.

**Артыкул праф. Пола Вэкслера „Дасьледваньне ў беларускай гістарычнай двумоўнай дыялекталёгіі й анамастыцы"** зьмешчаны ў лёнданскім квартальніку „Славонік энд Іст Юропіэн Рэв'ю" (Славянскі й Усходня-Эўрапейскі Агляд), т. 52, № 129 (кастрычнік 1974), бб. 481-499.

Аўтар артыкулу — старэйшы выкладчык факультэту лінгвістыкі Тэльавіўскага Ўнівэрсытэту.

**Кніжыца Мікалая Сташкевіча „Непазьбежнае банкруцтва (зь гісторыі палітычнага краху нацыяналістычных партыяй у Беларусі. 1917-1925 гады)"** выйшла ў 1974 годзе ў сэрыі „Бібліятэчка газэты ‚Голас Радзімы'". На 140 старонках малога фармату аўтар дае савецкую вэрсыю палітычнае гісторыі Беларусі 1917-1925 гадоў. Апошнім часам тэма „беларускага буржуазнага нацыяналізму" ўзмоцнена трактуецца ў савецкіх выданьнях рознага тыпу. Газэта „Голас Радзімы" ў вадным із сваіх выпадаў супраць беларускае палітычнае эміграцыі пісала (№ 44, лістапад 1974: „. . . Яны (г. зн. „бебурнацы") трасуць перад мікрафонамі ‚Свабоды' струхнелымі штандарамі ‚незалежнае БНР', пужаюць нас асыміляцыяй беларускае нацыі . . ."

**Артыкул др. Я. Заурдніка „Інтэрпрэтацыя Вялікага Княства Літоўскага ў працах беларускіх савецкіх гісторыкаў"** зьмешчаны ў кнізе „Балтык Гісторы" (Балцкая гісторыя), што выйшла нядаўна з друку ў выдавецтве Штатнага ўнівэрсытэту Агаё (ЗША). Аўтар дае агляд спрэчак у сучаснай беларускай савецкай гістарыяграфіі, што да нацыянальнага характару Вялікага Княства Літоўскага, паказвае як некаторыя беларускія гісторыкі распрацоўваюць тэзу, што ВКЛ было дзяржаваю беларускага народу.

**У апошнім нумары газэты „Гэрытэдж Рэвю",** органу Фэдэрацыі Этнічных Групаў Рэспубліканскае партыі ў штаце Нью Джэрзі, як і ў папярэдніх нумарох, зьмешчаны матар'ял пра Беларусь ды пра беларускае жыцьцё ў штаце Нью Джэрзі. У артыкуле др. Вітаўта Кіпеля пра Беларусь даецца агляд асноўных фактаў зь беларускае палітычнае гісторыі, насьвятляецца гісторыя эміграцыі зь Беларусі ў Амэрыку. У асобнай нататцы, ілюстраванай картай Беларусі, тлумачыцца розьніца паміж назовамі „Хатынь" і „Катынь". У газэце зьмешчаная рэзалюцыя Нацыянальнае Рады Этнічных Групаў пры Рэспубліканскай партыі ў падтрыманьне справы ўлучэньня беларускае мовы ў радыяперадачы „Голасу Амэрыкі". Апублікаваная таксама біяграфія новага старшыні фэдарацыі Этнічных Групаў Рэспубліканскае партыі штату Нью Джэрзі др. Вітаўта Кіпеля, актыўнага грамадзкага й палітычнага дзеяча. „Гэрытэдж Рэвю" мае каля двух з палавінаю міліёнаў чытачоў.

**„Пляны савецкае эканомікі на 70-я гады"** — назоў грунтоўнае калектыўнае навуковае працы, выдадзенай у Вашынгтоне Дзяржаўным Выдавецтвам ЗША і спансараванай Кангрэсам ЗША. Праца гэтая ўлучае ў сябе таксама й аналіз гаспадарскага разьвіцьця, стан працоўных рэзэрваў, дэмаграфіі, энэргэтыкі й іншых галінаў эканомікі БССР.

# У БЕЛАРУСАЎ НЬЮ ДЖЭРЗІ

### ВЫСТАЎКА ГАЛІНЫ РУСАК

Мастачка Галіна Русак удзельнічала ў выстаўцы „Тэхніка ў Ужытку Мастака", якая ладзілася Прынстанскай Асацыяцыяй Мастакоў ад 26 кастрычніка да 2 сьнежня летась у памешканьні Тэатру Мэк Картэра ў Прынстане. Сп-ня Русак мела на выстаўцы два абразы, выкананыя акрылікай.

У часе ад 16 лістапада да 6 сьнежня сп-ня Русак дала сваю выстаўку ў сэрыі Жанчынаў Мастакоў у Даглес каледжы ў Нью Брансьвіку. Гэта чацьверты год ужо, як каледж выстаўляе працы жанчынаў-мастачак. Сп-ня Русак паказала на гэтай выстаўцы 8 абразоў, намаляваных акрылікай. Абразы характэрныя яскравасьцяй колераў і гармоніяй элемэнтаў прыроды. Як паінфармавала мастачка, сымбалізм і стылізацыю прыроды яна ўзяла з народнай традыцыі свайго роднага краю. На выстаўку шырака адгукнулася ўнівэрсытэцкая й гарадзкая прэса.

### ДАРЫДНЫ КАМІТЭТ У СПРАВАХ ЭТНІЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

21 лістапада летась адбылося чарoднае пасяджаньне Дараднага Камітэту ў справах этнічнай спадчыны. На парадку пасяджаньня стаялі гэткія пытаньні: падрыхтоўка падручніка для этнічных заняткаў; справа фінансаваньня дзейнасьці; падрыхтоўка да канфэрэнцыі ў траўні сёлета; падрыхтоўка праекту закону аб этнічных студыях, ды іншыя пытаньні.

### ЛЕКЦЫЯ Д-РА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

26 лістапада летась адбылася другая з чаргі лекцыя прафэсара гісторыі Квінсаўскага Каледжу ў Нью Ёрку д-ра Я. Запрудніка на тэму „Беларускі нацыяналізм і тэрыторыя беларускага народу". Лекцыі гэтыя адбываюцца ў рамах Сэмінару Беларусаведы, ладжанага стараньнем Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі й Беларускага Студэнцкага Клюбу пры Ратгэрс унівэрсытэце ў Нью Брансьвіку. Ізноў сабралася значная грамада слухачоў, сярод іх шмат студэнтаў і наагул моладзі. Лектар цікава прадставіў у сьвятле гістарычных фактаў пытаньне расьсяленьня Беларусаў. Для ілюстрацыі лекцыі д-р Запруднік ужываў статыстычныя дадзеныя й карты. У дыскусіі былі закранутыя цікавыя пытаньні нацыянальных дачыненьняў у Вялікім Княстве Літоўскім ды савецкай нацыянальнай палітыкі.

### ПАДАРУНАК ЯНКІ СОКАЛА БЕЛАРУСКАМУ МУЗЭЮ Ў ЛЁНДАНЕ

Выкарыстоўваючы нагоду побыту ў ЗША дырэктара Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане а. д-ра Аляксандра Надсана, сп. Янка Сокал, сябра беларускай калёніі ў Нью Брансьвіку, перадаў для Музэю тры каштоўныя калекцыі: 21 сярэбраны мэдаль у выкананьні „Фрэнклін Мінт", прысьвечаныя амэрыканскім палётам у космас, сем сярэбраных мэдаляў у выкананьні ведамага мастака мэдалістага Ралфа Дж. Мэнконі, прысьвечаных таксама тэме палётаў у космас, і шэсьць сярэбраных паштовых марак Канады. Асабліва цікавая калекцыя Мэнконі, што сяньня ёсьць ужо калекцыянэрскай рэдкасьцяй.

Сп. Я. Сокал зьяўляецца калекцыянэрам паштовых марак, мэдаляў і манэтаў. У яго знаходзяцца таксама рэдкія маркі БНР ды іншыя маркі з тэрыторыі Беларусі. Пасьля ўручэньня, якое адбылося 7 сьнежня ў Нью Ёрку пасьля дакладу а. д-ра А. Надсана, сп. Сокал заявіў: „Гэта пачатак маіх падарункаў на карысьць беларускіх установаў".

Пасьля гэтага, старшыня Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскай Моладзі Рая Станкевіч падаравала Беларускаму Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зрыхтаваны ёю вялікі й густоўна афармлены альбом з фотаздымкамі (каля сотні фотаздымкаў) зь дзейнасьці беларускае моладзі ў ЗША ў 1971-74 гадох.

### БЕЛАРУСКАЯ ФУНДАЦЫЯ ЛЬВА САПЕГІ

14 жніўня сёлета закладзеная ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі **„Вялікалітоўская (Беларуская) Фундацыя Льва Сапегі, як незаработная арганізацыя"** (паангельску: **Lew Sapieha Greatlitvan (Bielarus) Foundation, Inc., as a not-for-profit corporation).**

Закладнікамі Фундацыі — Ян і Марыя Станкевічы. Заданьні Фундацыі: першае, памагаць і заахвочваць да дасьледваньня беларускае гісторыі, мовы, літаратуры, культуры й мастацтва ды выдаваць навуковыя працы з галіны мававеды, літаратуры, гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі й эканомікі Беларусі (выдадзеныя кнігі будуць собскасьцяй Фундацыі); другое, матарыяльна памагаць годным і здольным студэнтам беларускім студыяваць на высокіх школах Задзіночаных Гаспадарстваў Амэрыкі.

У сваёй выдавецкай дзейнасьці Фундацыя ўзалежненая ад таго, на што ёсьць кошт, начай кажучы, хто на што прызначыць свой дар Фундацыі, тое будзе выдадзена (гэтак паводля Статуту). Закладнікі запісалі ўсю сваю маемасьць (і часьць ужо далі) на выданьне гэткіх прац: Нарысы гісторыі Беларусі (пабеларуску й паангельску) Я. Станкевіча, Беларуска-Расейска-Ангельскі слоўнік Я. Станкевіча й М. Станкевічыхі, Беларускі Слоўнік Я. Станкевіча, Гістарычная й Нарматыўная граматыкі беларускія Я. Станкевіча. Затым на іхныя ахвяры будуць выдаваныя гэтыя працы. Дару іхнага адылі не даволі на выданьне ўсіх менаваных працаў, яны могуць пакрыць толькі часьць патрэбных коштаў. Значыцца, выданьне ўсіх менаваных гэтта прац залежыць ад таго, ці будуць на іх дары іншых ідэйных людзей. Хто будзе даваць свой дар на іхнае выданьне, можа азначыць, на якое зь іх дае.

Ёсьць пяць клясаў сяброў Фундацыі: 1. падпісныя (складка 5 дал.), 2. падпаможныя (складка 25 дал.), 3. памагаючыя (складка 50 дал.), 4. сябры-апякуны (складка 200 дал.), 5. сябры закладнікі (складка 2.000 дал.).

Усе сябры будуць атрымліваць кнігі, выдадзеныя Фундацыяй: колькасьць кніг, **атрымліваных кажным,** будзе залежаць ад вялічыні ягонае складкі.

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ У МОРЫСТАЎН

Невялікі горад у паўночна-заходняй частцы штату Нью Джэрзі Морыстаўн — у гісторыі Задзіночаных Штатаў адно з выдатнейшых месцаў. Тут у першыя гады незалежнае амэрыканскае дзяржавы 1777-1779 гадоў быў галоўны штаб Вашынгтона, дзе плянаваліся першыя перамогі маладое тады амэрыканскае арміі. Сяньня мясьціна гэтая — нацыянальны помнік-парк Задзіночаных Штатаў. На адзначаньне 200-годзьдзя Амэрыканскае Дзяржаўнасьці ў 1976 годзе ў Морыстаўне заплянаваная цэлая сэрыя юбілейных урачыстасьцяў.

І вось тут зь ініцыятывы Украінскага Кангрэсавага Камітэту і ў супрацоўніцтве з 15-ма рознымі нацыянальнымі арганізацыямі, у тым ліку й беларускімі — БАЗА, Беларускія Вэтэраны, Беларускія Рэспубліканскія Клюбы штату Нью Джэрзі й Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскія Моладзі, адбылася 24 лістапада жалобная маніфэстацыя з малітвамі й запальваньнем сьвечак па сяньняшніх вязьнях савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў.

Бурмістр гораду Дэйвід Мэнінгам, адчыняючы ўрачыстасьць, заначыў: „— Мы, улады гораду, вельмі задаволеныя, што сяньня малітва за паняволеныя народы йдзе з Морыстаўну. У амэрыканскай гісторыі Морыстаўн сымбалізуе найцяжэйшыя часы. Адначасна ў Морыстаўне нарадзілася і ўжыцьцявілася амэрыканская перамога. Гэты непахісны дух і імкненьне да перамогі — сымбаль Морыстаўну. І таму я веру, што, хоць шлях будзе ня лёгкім, запануе свабода й для паняволеных народаў. Нам прыемна ўсьведамляць, што тут у Морыстаўне нашымі малітвамі мы спрычыняемся да падтрыманьня змаганьня за волю паняволеных народаў".

Малітвы й прамовы сказалі галоўны рабін Нью Ёрку, праваслаўны, каталіцкі й пратэстанцкі сьвятары. Запаліліся тысячы сьвечак. На галоўнай трыбуне пачаўся пералік прозьвішчаў сяньняшніх вязьняў у Савецкім Саюзе.

Дыктар чытае: „Беларусь пратэстуе супраць камуністычнае дыктатуры. Ведамы прозьвішчы вязьняў Беларусаў наступныя: Аўген Сільчукоў, Пётра Пуко, Алесь Сінкевіч, Васіль Барычэўскі, Язэп Пацукевіч і шмат, шмат дзясяткаў іншых дысыдэнтаў у Слуцку, Віцебску, Берасьці, Менску".

Тысячны натоўп моліцца за Беларусь. Сьхіляюцца сьцягі над помнікам Вашынгтона, у тым ліку беларускі нацыянальны сьцяг, сьцяг Беларускіх Вэтэранаў. Сьцягі ў цэнтры аддаюць пашану і краю, дзе свабода цэніцца над ўсё, і духовым змагаром з камуністычнай акупацыяй на Беларусі.

Урачыстасьць трывала коратка, але была добра зарганізаваная й прадуманая. Пра ўрачыстасьць былі выдадзеныя адмысловыя прэсавыя камунікаты, у якіх пералічаліся й беларускія вязьні ў БССР і іншых мясцовасьцях Савецкага Саюзу.

**Удзельнік**

# Беларуская казка заваявала Нямеччыну

Кніга беларускіх казак, у падборы ды з грунтоўнымі навуковымі камэнтарамі выдатнага беларускага фальклярыстага Льва Барага, а ў нямецкім перакладзе Ганса-Ёахіма Грымма, паказалася ў Бэрліне ўжо ў 7-м, 1973 году, выданьні. Першае яе выданьне зьявілася ў 1966 годзе. Дык кніга перавыдавалася штогод, тыражамі пераважна па 10,000 экзэмпляраў кажнае выданьне.

Зборнік, што мае 648 бачынаў, памяшчае тэксты 122 беларускіх народных казак рознага казачнага жанру — чарадзейныя, бытавыя, пра жывёлаў, **легендарныя. Хоць** зборнік выдадзены быў спачатку бэрлінскім выдавецтвам „Акадэмія" для мэтаў перш за ўсё навуковых, ды дзеля выдатных мастацкіх якасьцяў беларускае народнае казкі кніга хутка стала папулярнаю сярод масавага чытача Нямеччыны Ўсходняй і Заходняй. Дзеля гэтага ў хуткім часе яна й дачакалася ўжо сёмага выданьня.

Прычына папулярнасьці й тая, што тэксты казак захаваныя ў кнізе арыгінальныя, бязь зьменаў, перарабак, пропускаў, як гэта зь беларускай казкай звычайна практыкуецца ў БССР, ды ў СССР наагул. Казкі беларускага народу, што славяцца сваімі літаратурна-мастацкімі якасьцямі ды філязафічнай глыбінёй думкі, у СССР, як правіла, перарабляюцца, дэфармуюцца, стандарызуюцца пад палітычна-вялікадзяржаўныя вымаганьні партыйнае прапаганды. Ім, як правіла, начэплівaецца сучасная савецкая казённая ідэялёгія, і яны губляюць свой арыгінальны старавечны народны характар, сваю душу, а разам і свой казачны чар.

Нямецкі назоў кнігі: Belorussische Volksmärchen. Herausgegeben von L. G. Barag. Berlin, Akademie — Verlag.

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (сьнежань 1974) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**І. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | $ 100.00 |
| 2. Д-р М. Шчорс | 25.00 |
| 3. М. Дубоўская | 25.00 |
| 4. І. П. Г. | 20.00 |
| 5. П. Зыбайла | 20.00 |
| 6. М. Русак | 20.00 |
| 7. П. Драздоўскі | 20.00 |
| 8. В. Казлоўскі | 20.00 |
| 9. В. і М. М. | 20.00 |
| 4. І. П. Г. | 20.00 |
| 10. А. Якімовіч | 20.00 |
| 11. А. Ліхач | 20.00 |
| 12. Я. Шымчык | 15.00 |
| 13. С. Красоўскі | 15.00 |
| 14. В. Шудзейка | 15.00 |
| 15. К. Мерляк | 10.00 |
| 16. Я. Казьлякоўскі | 10.00 |
| 17. М. Казьлякоўскі | 10.00 |
| 18. Ч. Найдзюк | 10.00 |
| 19. В. Кажан | 10.00 |
| 20. Б. Данілюк | 10.00 |
| 21. М. В. | 10.00 |
| 22. А. Лук'янчык | 10.00 |
| 23. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 24. Л. Акінчыц | 10.00 |
| 25. С. Стаськевіч | 10.00 |
| 26. Д-р Т. В. | 40.00 |
| 27. М. С. | 20.00 |
| **Разам:** | **$ 535.00** |

**ІІ. КАНАДА:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Б. Рагуля | $ 120.00 |
| 2. Д-р Р. і В. Жук- Грышкевічы | 50.00 |
| 3. Г. Нікан .... (канадыйскіх) | 25.00 |
| 4. В. Пашкевіч ........ (канад.) | 21.00 |
| 5. Я. Яфімчык | 10.00 |
| **Разам:** | **$ 226.00** |

**ІІІ. ЗА КЛІШЫ Й ЛЁТНІЦКУЮ ПОШТУ:**

| | |
|---|---|
| 1. ККБК за клішы канадыйскімі | $ 30.00 |
| 2. А. Лашук за лётніцкую пошту | 5.60 |
| **Разам:** | **$ 35.60** |

**Усяго разам: $ 796.60**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**